# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 29 (2223)

18 ліпеня 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.

## «KALINKA»



**Назва ансамбля руская, але чаму яна на афішах напісана лацінскімі літарамі — "Kalinka", а ніжэй таксама не па-руску — Nederland?**

**Цэлы тыдзень гэты калектыў быў госцем Беларускага таварыства "Радзіма", даў шэраг дабрачынных канцэртаў, уручыў дзіцячым санаторыям лекі і медыцынскія прыборы, спачуваючы беларусам, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы.**

**У "Калінцы" выступаюць нашы суайчыннікі, што жывуць у Галандыі, іх дзеці і ўнукі, а таксама галандцы, якія ўсёй душой палюбілі беларускія, рускія, украінскія песні і танцы.**

**У Беларусі ўдзельнікі ансамбля пабывалі ў Брэсце, пазнаёміліся з Мінскам. Больш грунтоўны расказ пра "Калінку", асобных артыстаў, іх уражанні ад паездкі ў Беларусь і нашы ад іх выступленняў мы змесцім у наступным нумары "Голасу Радзімы".**

**НА ЗДЫМКУ: "Калінка" на Купаллі 6 ліпеня ў вёсцы Пятрышкі каля Радашковіч.**

Фота **С. КРЫЦКАГА.**

## *КВАТЭРЫ ЁСЦЬ, ЖЫЦЬ... НЯМА ДЗЕ*

**Пасёлак Холмень у Рэчыцкім раёне пабудаваны для перасяленцаў з чарнобыльскай зоны з сумна вядомай гаротнай Барталамееўкі. Але вось бяда: у прыгожым, з камфартабельным жыллём пасёлку ўсе 350 кватэр пабудаваны з вялікім спазненнем. Усе працаздольныя жыхары Барталамееўкі, якія павінны былі пераехаць у Холмень да I верасня 1990 года, даўно раз'ехаліся з вёскі, забруджанай пасля чарнобыльскай катастрофы, у розныя раёны рэспублікі. Яно і зразумела, хто ж будзе жыць з дзецьмі ў зоне, дзе ўзровень радыяцыі больш за 50 кюры на квадратны кіламетр. У Барталамееўцы зараз засталіся толькі адзінокія і састарэлыя пенсіянеры. Кватэры ж у Холмені ў асноўным двух-, трох-, чатырохпакаёвыя. Адзінокіх старых па нашаму жыллёваму заканадаўству ў такую не паселяць. Ды і мясцовую ўладу зразумець можна, калі сем'і механізатараў мясцовага саўгаса "Іскра" жывуць ледзь не ў бараках. І прымаць пенсіянераў, аб якіх трэба толькі клапаціцца, а дапамогі саўгасу ніякай, адміністрацыя гаспадаркі не спяшаецца...**

**Вось і атрымліваецца парадокс — камфартабельны жылы пасёлак абышоўся амаль у 17 мільёнаў рублёў, а радасці навасельцаў не чуваць.**

**НА ЗДЫМКУ: новы пасёлак Холмень, у якім ніхто не жыве.**

Фота **С. ХАЛАДЗІЛІНА.**



СЯЛЯНЕ І ЗЯМЛЯ

# АД РЭФОРМЫ ДА РЭВАЛЮЦЫІ

Добра было б, каб і ў Беларусі на дапамогу калгасам і саўгасам прыйшлі фермеры, гаспадарлівасць і руплівасць якіх вядомы ўсяму свету. Ды не надта многа ахвотнікаў. Фермерская гаспадарка не мае ні адпаведнай матэрыяльнай базы, ні рэальнай прававой абароны. Беларускі парламент не можа забяспечыць земляроба нават самым надзённым, першасным і элементарным правам на прыватную ўласнасць. Перабудова вёскі марудзіцца.

Не сёння, не год і не пяць таму назад руская дзяржава пачала рабіць крокі да сучасных рынкавых адносін. Рух у гэтым кірунку пачаўся з адмены прыгону, роўна 130 гадоў таму назад. Зараз важна прыгадаць той вопыт. Дык вось. Сяляне атрымалі тады зямлю ва ўласнасць. Зразумела, што не дарма, а за выкуп. І ўсё ж — ва ўласнасць. Важнасць гэтага факта дагэтуль замоўчваецца.

Аляксандр II даў сялянам не толькі волю, але і зямлю. На кожнага вясковага мужчыну Беларусі, незалежна ад узросту, прыйшлося па 4-5 дзесяцін. Аграрная рэформа ў нашым краі была больш радыкальнай, чым у іншых мясцінах краіны. Пад уздзеяннем паўстання 1863 года цар адкрыў сялянам крэдыт для датэрмінованага выкупу ў паноў зямельных надзелаў і знізіў на 20 працэнтаў выкупныя плацяжы, якія паступалі на пагашэнне дзяржаўнай пазыкі. Вяскоўцам часткова вярталі раней адабраныя панамі землі. Урад забараніў абавязковае размярстанне ўгоддзяў па патрабаванню адных толькі былых прыгоннікаў і пацвердзіў за сялянамі на неакрэслены перыяд права на сервітуты (дармавы выпас на панскіх землях). Да 1870 года захоўвалася магчымасць за адпаведную плату нарыхтоўваць у панскім лесе дровы. Па прызнанню віленскага генерал-губернатара М. Мураўёва, рабілася ўсё гэта, каб "адняць на будучыя часы ўсякія сродкі выкарыстання рэвалюцыяй цяжкага становішча сялян".

Якія б там ні былі намеры ўрускай дзяржавы, але псіхалагічны настрой беларускіх вяскоўцаў істотна палепшыўся. Аб гэтым яскрава сведчаць наступныя лічбы. Калі ў дарэформенны час (1835 — 1859) натуральны прыбытак сялянскага насельніцтва краю паменшыўся на 6 працэнтаў, то ў 1859 — 1877 гадах ён ужо павялічыўся на 34 — 35 працэнтаў (!). Ні ў якім другім месцы імперыі вясковае насельніцтва так хутка не ўзрастала. Змяніліся адносіны сялян да працы і да зямлі. З'явілася ўпэўненасць, што дадзеныя царом надзелы паны не адбяруць і не адрэжуць, як гэта было раней. Ад таго вяскоўцы станавіліся яшчэ больш лдбайнымі гаспадарамі. Яны працавалі з надзеяй разлічыцца з дзяржавай і стаць уласнікамі зямельных нарэзкаў (з 1907 года выкупныя плацяжы скасаваны), а пры мажлівасці і павялічыць іх. Назіраўся ўздым сялянскай сельскагаспадарчай вытворчасці. Беларускі хлеб у 60-х — 70-х гадах ішоў на экспарт.

Зразумела, што вяскоўцы не ставіліся рэформай у аднолькавыя стартавыя ўмовы для ўзбагачэння. Не ўсе раней абеззямеленыя атрымалі надзелы. Адным зямля дасталася лепшай якасці, другім горшай. У адных было больш сыноў, а таму і больш зямлі, у другіх — адны дочкі, а гэта значыць 5 дзесяцін на ўсю сям'ю. Не ўсе былі аднолькава спрытнымі і паваротлівымі. З цягам часу ў сялян падрасталі сыны, якім таксама патрабавалася зямля, але тыя кавалкі, што выдзеліў у 60-х гадах цар, не станавіліся ні шырэйшымі, ні даўжэйшымі. З 1863 па 1892 год у Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай і Мінскай губернях сярэдні надзел на наяўную душу мужчынскага полу скараціўся прыкладна да 3 дзесяцін.

Надзельныя землі не выратоўвалі. Іх мажлівасці былі вычарпаны недзе да пачатку 80-х гадоў. Сваё становішча сяляне маглі палепшыць двума шляхамі — або прыкупіць зямлі, або, увогуле, пазбавіцца яе і знайсці заробак больш надзейны. Толькі такім чынам ствараліся нармальныя рыначныя адносіны. Заможныя вяскоўцы маглі ўзняць свае гаспадаркі да ўзроўню фермерскіх і забяспечыць збяднелых працай, якая б давала больш прыбытак, чым карлікавыя надзелы. Але і ў першых, і ў другіх шанцаў было мала. Зямельнае багацце штучна ўтрымлівалася ў руках паноў, фактычна выключалася са свабоднага ўжытку (куплі-продажу). Не маглі збыць свае абцяжараныя выкупнымі плацяжамі кавалачкі зямлі і збяднелыя сяляне, урэшце, як і ўсе трымальнікі царскіх надзелаў.

Жыццё патрабавала ўдасканальвання рыначных адносін, далейшага развіцця рэформы 1861 года. Урад жа здрадзіў ёй. Рост капіталізму і ўплыву буржуазных колаў палохаў дваранства, галоўную сацыяльную апору самаўладдзя. Таму дзяржава на чале з новым царом Аляксандрам III пачала зварач-

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

*СТАТЫСТЫКА*

## НА ШТО ТРАЦІМ ЧАС?

Статыстыка аб тым, як праводзяць вольны час грамадзяне СССР, сведчыць:

Гараджане нашай краіны актыўна адпачываюць у дзень 3 гадзіны 29 мінут, вяскоўцы — 2 гадзіны 32 мінуты. Мужчыны праводзяць ля тэлевізара 1 гадзіну 47 мінут, жанчыны — 50 мінут. На перыёдыку і кнігі трацяць: мужчыны 35 мінут, жанчыны — 14. На гульні, візіты, сустрэчы — адпаведна 7 і 4 мінуты, на павышэнне кваліфікацыі і вучобу па 3 мінуты, на выхаванне дзяцей — 27 і 30 мінут. Пры гэтым у жанчын вольнага часу ў 1,7 раза меней, чым у мужчын, праўда, сярод моцнай паловы насельніцтва ў горшым стане знаходзяцца ўладальнікі асабістага аўтатранспарту. Значная частка іх вольнага часу ідзе на пошукі бензіну і запасных частак.

*ЯК ВЫЖЫЦЬ?*

## СЛАВЯНСКІ САБОР

У Мінску прайшло выязное пасяджэнне думы Славянскага сабора — міжнароднага неўрадавага саюза, які аб'ядноўвае 96 славянскіх арганізацый з 58 гарадоў Савецкага Саюза, Польшчы і Славакіі. Дума абмеркавала праблемы выжывання славян ва ўмовах дэмаграфічнага, экалагічнага і культурнага генацыду.

— Наша мэта — аб'яднанне ўсіх славян для захавання асобай славянскай цывілізацыі, — сказаў сустаршыня Славянскага сабора Станіслаў Карпаў. — Мы не можам спакойна назіраць, як пэўныя сілы спрабуюць спачатку нас раз'яднаць, уцягнуўшы ў бяздонне нацыянальных міжусобіц, а затым знішчыць па адзіночцы. Час, нарэшце, задумацца, якое ж месца адводзіцца славянскім народам у так званым агульнаеўрапейскім доме. Мы — за захаванне дзяржаўнасці, росквіт вялікай Расійскай дзяржавы ў межах Савецкага Саюза, за мір і дружбу паміж усімі народамі.

Дума асудзіла знешнепалітычны курс Савецкага ўрада, накіраваны, як яна лічыць, на самараззбраенне перад тварам моцнага Захаду. На думку сабраўшыхся, насляючыя СССР славянскія народы застаюцца апошняй апорай духоўнасці, якая супрацьстаіць агрэсіўнаму, матэрыяльна чазапашанаму амерыканскаму прагматызму, я аразіў усе развітыя капіталістычныя дзяржавы.

*ВУЧАЦЦА Ў МІНСКУ*

## ПЕРШАЯ МІЖНАРОДНАЯ

На базе Беларускай політэхнічнай акадэміі адбыўся выпуск слухачоў 1-й Міжнароднай Еўрапейскай рэгіянальнай школы "Магнітныя вадкасці і парашкі — новыя тэхналагічныя матэрыялы". Чаму выбар выпаў менавіта на нашу акадэмію? Гэта адна з буйнейшых тэхнічных ВНУ рэспублікі і краіны. Тут працуе вялікая група даследчыкаў у галіне магнітных вадкасцей і ферааабразіўных парашковых асяроддзяў, работы якіх вядомы далёка за межамі рэспублікі і Саюза.

У рабоце школы прынялі ўдзел прадстаўнікі ЗША, Англіі, Японіі, Францыі, слухачы з Алжыра. Францыі, Чэха-Славакіі, Германіі, Іспаніі, Індыі, В'етнама, а таксама вучоныя з розных гарадоў нашай краіны. Сярод замежных удзельнікаў школы — такія вядомыя вучоныя, як прафесар С. Чарльз з універсітэта Паўночнага Уэльса (г. Бангор, Вялікабрытанія); доктар Л. Розенцвейг з Даследчага цэнтра карпарацыі ЭКСОН, ЗША; доктар Б. Бяркоўскі, дырэктар Дэпартамента інжынерных навук і тэхналогій Сакратарыята ЮНЕСКА.

У школе падрыхтавана 70 спецыялістаў, якім уручаны сертыфікаты. Акрамя таго, заключана 6 пагадненняў з удзелам БДПА на правядзенне сумесных даследаванняў, падрыхтоўкі спецыялістаў, стажыроўкі.

*А ЦЭНЫ "КУСАЮЦЦА"*



"Нешта супярэчлівае адбываецца сёння ў нашых магазінах па продажу гародніны і фрукта разгары лета, сезон памідораў, агуркоў, цыбулі, а тут прылаўкі пустыя.
Затое на рынках Беларусі ўсяго ўдосталь. Асабліва ўрадзілі клубніцы. Такога ўраджаю, як сёлета, даўно не было. Радавацца трэба. Ды вось засмучаюць цэны. Калі за вядро ягад просяць 50 рублёў тут ужо не да радасці. "Кусаюцца" цэны, як у нас ер гавораць. І не толькі на клубніцы, а літаральна на ўсю гародніну і садавіну. Нават дзеці не надта могуць паласавацца дарункамі лета.

НА ЗДЫМКУ: на Камароўскім рынку ў Мінску.

*АДРАДЖАЕМ ТРАДЫЦЫІ*

## КУПАЛЛЕ

У ноч з 6 на 7 ліпеня каля вёсак Ратагошча і Валеўка Навагрудскага раёна праходзіла першае афіцыйнае ўсебеларускае Купалле.

Удзельнікі свята не прапускалі ніводнага дома, дзе жывуць Іваны. Спявалі песні, заклікалі на свята. Сяльчане адказвалі жартамі, частавалі хто чым мог.

Першае ўсебеларускае Купалле... Чаму менавіта на Навагрудчыне?

— Лягчэй адраджаць народныя традыцыі там, дзе для гэтага існуе спрыяльная глеба, — сказаў народны дэпутат БССР пісьменнік Ніл Гілевіч. — На Навагрудчыне, канкрэтна ў Валеўцы, ужо больш як дзесяць гадоў святкуюць Купалле. А адраджаць такія святы неабходна, бо без гэтага немагчыма нацыянальная самасвядомасць.

*НЯЗВАНЫЯ ГОСЦІ*

## ПРЫШЭЛЬЦЫ З-ЗА БУГА

Польскія ўлады і сродкі масавай інфармацыі б'юць трывогу з прычыны захопу рынкаў і прылягаючых да іх месцаў гандлю новаспечанымі савецкімі спекулянтамі. У данай інфармацыі гутарка ідзе не аб канкурэнцыі паміж дробнымі польскімі і савецкімі гандлярамі, што лічыцца нармальнай з'явай пры пераходзе да рыначных адносін, а аб шкодзе акаляючаму асяроддзю, якую наносяць прышэльцы з-за Буга.

У газеце "Кур'ер польскі" апісваецца наступная карціна: здзіўленне ахоплівае паліцэйскія патрулі, што нясуць службу ў раёне Цэнтральнага вакзала ў Варшаве і Палаца навукі і культуры. Тут тысячы грамадзян СССР — мужчын і жанчын, маладых і ўжо ў гадах, начуюць вакол фантанаў на плошчы Дэфіляд, у залах чакання і ля кас, а то і проста на лесвіцах вакзала. Гэта — гандляры, якія прыбылі поездам ноччу ці не паспелі рэалізаваць свае тавары днём. У чаканні ўдачы яны засталіся на наступныя суткі. Чаму савецкія гандляры збіраюцца ў гэтых месцах — зразумела: побач размяшчаюцца "таўкучкі". З самай раніцы неабходна захапіць "стратэгічна важныя" для гандлю месцы. Тым, хто прыехаў з СССР на сваіх аўтамашынах, лічы пашанцавала. Іх тут называюць "прывілеяваным" класам. Яны могуць пераначаваць у салонах аўтамашын. А што рабіць тым, хто прыехаў поездам?

Інспектар паліцыі Цэнтральнага вакзала Марэк Павельчык сказаў журналісту газеты "Кур'ер польскі", што на працягу кожнай ночы тут дзяжураць узмоцненыя нарады ахоўнікаў парадку. Прычынай таму пастаянныя бойкі паміж рускімі, украінскімі, беларускімі, прыбалтыйскімі "абшчынамі", п'янства, прастытуцыя. Раніцай каля гэтых месцаў начлегу — горы смецця, антысанітарыя, разбітыя бутэлькі з-пад алкаголю і, натуральна, велізарныя страты для акаляючага асяроддзя, асабліва ў гэтыя гарачыя летнія дні. Прыбіральшчыкі ўжо не маюць сіл ачышчаць гэтую звалку, пратэстуюць.

Нумар у самай таннай гасцініцы каштуе як мінімум 25 долараў ЗША, але гэта сума для гасцей не па кішэні. Каб не сабраць, неабходна прадаць амаль 15 бутэлек гарэлкі — асноўнага тавару, які прывозіцца для збыту. Вось і начуюць яны на вуліцах, дзе папала.

А вось даныя аб затрыманні дэбашыраў у перыяд 5 — 7 ліпеня, атрыманыя ў паліцэйскім участку: 18 масквічоў, 11 жыхароў Беларусі, 9 украінцаў, 16 прыбалтаў, 7 грузін, 5 армян, 65 працэнтаў — людзі з вышэйшай адукацыяй, сярод іх 9 чалавек — кандыдаты навук, трое урачоў, 12 інжынераў і 4 педагогі.

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

● Японскі журналіст Акіяма, які нядаўна пабываў у космасе на савецкім касмічным караблі, разам з групай калег наведаў Гомельшчыну. Тэлерадыёкампанія "Сі-бі-эс" робіць дакументальны фільм аб чарнобыльскай катастрофе.

● Скот Норвуд, прафесар універсітэта ў Сан-Хасэ (штат Каліфорнія), відаць, у хуткім часе пераедзе ў Мінск: ён прыняў запрашэнне беларускага ўрада ўвайсці ў склад экалагічнага савета рэспублікі. Як заявіў старшыня Савета Міністраў БССР В. Кебіч, апрача амерыканскага спецыяліста, у эканамічны савет будуць запрошаны і эксперты з іншых краін.

● У Гомелі на будынку дзяржаўнага універсітэта, які носіць імя Ф. Скарыны, адкрыта мемарыяльная дошка вялікаму Асветніку. Разам з прафесарамі і студэнтамі Гомельскага універсітэта на адкрыцці памятнай дошкі Ф. Скарыне прысутнічалі і выступілі з прамовамі архірэй Гомельскай і Мазырскай епархіі ўладыка Арыстарх, сакратар Гомельскага гаркома КПБ В. Некрашэвіч.

● Неўзабаве Брэст будзе мець сваё пастаяннае прадстаўніцтва ў польскім горадзе Бяла-Падляска. Яно будзе займацца ў асноўным знешнеэканамічнай дзейнасцю — пошукам і абменам узаемавыгаднай інфармацыі для гандлёвых здзелак.

● Адзінаму ў Беларусі сатырычнаму часопісу "Вожык" споўнілася 50 гадоў. Юбіляра шчыра віншавалі яго прыхільнікі і сябры на вечары ў яго гонар у Доме літаратара ў Мінску.

● Місія міласэрнасці, якая прыбыла з Германіі ў Пінск, падарыла гораду самую сучасную ультрагукавую дыягнастычную ўстаноўку. Кошт яе 35 тысяч марак.

*ЗОЛАТА СА... ЗВАЛКІ*

Для прадпрымальных людзей і звалка ў прамым сэнсе слова — "залатое дно". Гэта яшчэ раз пацвердзілі супрацоўнікі міліцыі Мінска. Яны раскрылі групу спекулянтаў каштоўным металам. Здабывалі золата на звалцы радыёдэталей непадалёку ад беларускай сталіцы не якія-небудзь невукі, а кандыдаты навук, людзі з вышэйшай адукацыяй. Веды і прадпрымальнасць зрабілі гэтых алхімікаў багацеямі: толькі адна здзелка прынесла ім 180 тысяч рублёў прыбытку. За золата спекулянты куплялі аўтаматычную зброю, буйныя сумы валюты. Да таго ж адна справа парадзіла новую. Золатаздабытчыкаў проста ашуквалі іх кампаньёны — плацілі фальшывымі доларамі за тавар. Цяпер ужо міліцыя завяла яшчэ адну справу: на фальшываманетчыкаў.



Спекуляцыя, рознага роду махінацыі пакуль бурна квітнеюць на глебе ўсеагульнага дэфіцыту і развалу савецкай эканомікі. Так што спраў у супрацоўнікаў следчых органаў міліцыі цяпер вельмі многа.

НА ЗДЫМКУ: грошы і тавар, канфіскаваныя ў спекулянтаў.

*ВОЛЬНАЯ ТРЫБУНА*

# ПЕРАБУДОВА: ГІСТАРЫЧНЫЯ ЛЁСЫ

## I.

Для таго, каб зразумець перадумовы перабудовы і прычыны глыбокага крызісу, што ахапіў савецкае грамадства, неабходна зрабіць экскурс у гісторыю. Кастрычніцкая рэвалюцыя па залучанасці ў яе мас насельніцтва, несумненна, з'яўлялася самай дэмакратычнай з усіх рэвалюцый сусветнай гісторыі. Чаму ж яна парадзіла антыдэмакратычны таталітарны рэжым? Тлумачэнне трэба шукаць не ў прыродзе "камуністычнай дактрыны", як гэта робяць некаторыя даследчыкі, а ва ўзаемадзеянні цэлага шэрагу ўнутраных і знешніх фактараў, што вызначалі развіццё краіны пасля 1917 года.

Рэвалюцыя ў Расіі, а затым рэвалюцыі подобнай жа сацыялістычнай арыентацыі, якія адбыліся пазней у Манголіі, Кітаі, Балгарыі, Румыніі, Югаславіі, Албаніі, Анголе, Мазамбіку, на Кубе, у Нікарагуа і некаторых іншых краінах, зусім не былі вынікам супярэчнасцей буржуазнага развіцця, як гэта спрабавалі даказаць многія марксісты-дагматыкі. Наадварот, ва ўсіх гэтых краінах капіталістычны спосаб вытворчасці знаходзіўся на адносна раннім этапе свайго развіцця, на ўздыме. Сацыяльныя рэвалюцыі ў гэтых краінах былі выклікамы такімі ўнутранымі ўмовамі, як галеча вялікай колькасці насельніцтва ў страшэнным кантрасце з раскошай маёмасных класаў, сацыяльна-псіхалагічным і сацыяльна-культурным разрывам паміж кіруючай элітай і "простанароддзем" у спалучэнні з рэпрэсіўнымі палітычнымі рэжымамі. Камуністычныя партыі, якія ў выніку канкрэтных гістарычных умоў аказаліся ў гэтых краінах у авангардзе рэвалюцыйнага ці нацыянальна-вызваленчага руху, змаглі акумуліраваць усю нянавісць нізоў да сваіх ці замежных вярхоў і здэтанаваць яе ў сацыяльны выбух рэвалюцыі.

Палітычны рэжым аднапартыйнай дыктатуры ў Расіі зарадзіўся і пачаў фарміравацца ва ўмовах кровапралітнай і працяглай грамадзянскай вайны, якая на Далёкім Усходзе закончылася толькі ў 1922 годзе. Яе водгалас на Украіне, у некаторых раёнах Сібіры, у Сярэдняй Азіі і на Паўночным Каўказе даваў сябе адчуваць аж да канца 20-х — пачатку 30-х гадоў. У свядомасці шырокіх мас насельніцтва трывала ўсталяваўся стэрэатып пастаяннай барацьбы з рэшткамі "варожых класаў". Менавіта таму такія акцыі, як дэпартацыя кулакоў і часткі сярэдняга сялянства ў перыяд калектывізацыі ці расстрэлы і ссылкі "ворагаў народа" ў сярэдзіне 30-х гадоў, не выклікалі пратэсту большасці насельніцтва і нават былі сустрэты з адабрэннем.

З пачатку свайго існавання новая Савецкая дзяржава сутыкнулася з рэзка варожай пазіцыяй Захаду. Інтэрвенцыя II дзяржаў у гады грамадзянскай вайны і актыўная падтрымка імі контррэвалюцыйных сіл, працяглая дыпламатычная ізаляцыя Савецкай Расіі, спробы накіраваць у 1936 — 1939 гадах агрэсію фашысцкай Германіі і мілітарысцкай Японіі супраць СССР, прамаруджванне з адкрыццём другога фронта, нарэшце, развязванне ў 1946 — 1949 гадах Захадам "халоднай вайны" супраць СССР і іншых сацыялістычных краін — усё гэта прадыктавала самаарганізацыю савецкага грамадства ў падабенства асаджанай крэпасці.

Задачай выжывання ў варожым акружэнні быў прадыктаваны і пераход у свой час да фарсіраванай індустрыялізацыі. Ці магчыма было вырашыць гэтую задачу ва ўмовах захавання нэпа, гэта значыць змешанай эканомікі рыначнага тыпу? Цяпер гэта чыста акадэмічнае пытанне. Відавочна, што фарсіраваная індустрыялізацыя і мілітарызацыя, правядзенне культурнай рэвалюцыі патрабавалі ў рэальных умовах таго часу накаплення рэсурсаў за кошт стрымлівання на нізкім узроўні асабістага спажывання.

Натуральнае пытанне, чаму масы насельніцтва падтрымлівалі таталітарную сістэму, што сфарміравалася. Важнай

(Заканчэнне на 5-й стар.).

БЫЛО СУДЖАНА ВЫЖЫЦЬ

# ЁЙ УСЁ ЯШЧЭ СНІЦЦА ВАЙНА...



— Жыццё прайшло, а помніцца толькі вайна, — гаворыць Зінаіда Лішакова з гарадскога пасёлка Шуміліна Віцебскай вобласці. І на самай справе, выпрабаванняў, якія выпалі на долю гэтай жанчыны, хапіла б не на аднаго чалавека.

Яе лёс змясціў у сабе нямала сумных старонак. Самыя ж трагічныя прыпадаюць на гады Вялікай Айчыннай. Таму не можа яна забыцца на жахі, якія выпалі далёка не кожнаму нават з тых, хто трапіў у канцэнтрацыйны лагер Асвенцім. Яна, дачка беларускага селяніна, студэнтка Віцебскага педагагічнага інстытута, аказалася ў ліку тых, над кім праводзіў свае бесчалавечныя эксперыменты доктар Менгеле.

— Відаць, стваралі якуюсьці бактэрыялагічную зброю, — успамінае Зінаіда Максімаўна. — Мікробы вырошчвалі на чалавечым мясе. У лагер прывозілі жанчын розных нацыянальнасцей. Праўда, кроў забіралі, у асноўным, у француженак і галандак. Магчыма, яны былі здаравейшымі. Змясцілі нас у барак № 25. Ён стаяў за нейкай каменнай сцяной з дротам, па якім праходзіў электрычны ток. Барак быў падзелены на чатыры часткі. Там стаялі два карыты з малочнага колеру растворам, два — з карычневым. Нас выстройвалі распранутымі ў чаргу. Затым прымушалі акунацца спачатку ў карычневую, затым у малочную вадкасць. Скура жанчын была ў кровападцёках. Раствор раз'ядаў раны. Яны вельмі балелі. Жанчыны выскоквалі на вуліцу і, не памятаючы сябе ад болю, качаліся голымі па зямлі. Немка, якая праводзіла эксперымент, утаймоўвала іх жалезным прутам...

Так нас "купалі" кожны дзень. Раны змазвалі чалавечым тлушчам. У каго ж яны не зажывалі, бралі ў аперацыйную. Відаць, каб лепш зразумець працэсы, якія адбываліся ў арганізме пад уплывам вопытаў, аперыравалі без анестэзіі. Такое змаглі вытрымаць нямногія...

Зінаідзе Максімаўне суджана было прайсці і праз іншыя выпрабаванні. На шчасце, побач з ёй аказваліся не толькі тыя, хто здзекаваўся над чалавечай годнасцю, але і хто не баяўся (нават на тэрыторыі фашысцкай Германіі) працягнуць руку дапамогі. Ёй суджана было выжыць, каб данесці да нас суровую праўду аб антыгуманнасці любога таталітарнага рэжыму, аб жахах вайны.

Ужо каторы год Зінаіда Максімаўна на пенсіі. Жыве адна. Сам-насам са сваімі ўспамінамі, са сваім горам. На стале ў яе ляжыць яе ж фатаграфія, зробленая 22 чэрвеня 1941 года. У той дзень, які перакрэсліў лёс мільёнаў людзей. Маладая, прыгожая дзяўчына...

**С. ВІКТАРАЎ.**

**НА ЗДЫМКУ: Зінаіда ЛІШАКОВА.**

**Фота А. ТАЛОЧКІ.**

# З ХОЙНІКАЎ У ФІЛАДЭЛЬФІЮ—

такі шлях робіць новая прадукцыя Хойніцкага сыраробчага камбіната — казеін. Першая партыя яго адпраўлена за акіян.

Магчыма, у некаторых гэта паведамленне выкліча недавер, паколькі, баючыся радыяцыі, не бяруць нават згушчонае малако Рагачоўскага малочна-кансервавага камбіната. Але ў штаце Філадэльфія, відаць, людзі не такія эмацыянальныя, але затое больш практычныя. Даведаўшыся, што Гомельскае аб'яднанне мяса-малочнай прадукцыі прапаноўвае на экспарт казеін, каб разлічыцца за набытае імпартнае абсталяванне, яны папрасілі ўзоры вырабаў. А пасля іх даследавання прыехалі сюды самі, пагледзелі вытворчасць, заключылі кантракт з аб'яднаннем на пастаўку тысячы тон казеіну.

Справіцца з такім заказам аднаму невялікаму прадпрыемству нялёгка. Таму разам з Хойніцкім сыраробчым камбінатам казеін пастаўляюць для ЗША калектывы Веткаўскага і Лельчыцкага маслазаводаў.

# АД РЭФОРМЫ ДА РЭВАЛЮЦЫІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

ваць дэмакратычныя рэформы, узмацняць адміністрацыйную ўладу, канцэнтраваць у сваіх руках матэрыяльныя сродкі.

Спадзяванні вяскоўцаў на цара не спраўджваліся. Каму ён спрыяў на Беларусі ва ўсе часы, дык гэта рускім землеўладальнікам. Пасля адмены прыгону дзяржаўныя сяляне, сярод якіх было шмат рускіх старавераў, атрымалі большыя надзелы, а плацілі за іх меншы выкуп у параўнанні з былымі панскімі. 1863 год выклікаў хвалю рускай каланізацыі. Маёнткі, якія былі адабраны ў паўстанцаў, і дзяржаўныя ўладанні прадаваліся царскім урадам рускім чыноўнікам па неверагодна нізкай цане. Мясцовае ж сялянства не магло пашырыць свае ўладанні часам нават і тады, калі заводзіліся грошы.

Тут ёсць сэнс сказаць аб тых абмежаваннях у мабілізацыі зямельнай уласнасці, якія існавалі выключна на Беларусі і ў Літве і якія ніяк не спрыялі ўзбагачэнню вёскі. Перш за ўсё вельмі шкодзіла тое, што апалячаныя землеўладальнікі страцілі за ўдзел у антыцарскім паўстанні права на набыццё новай зямлі, а таму ўчэпіста трымаліся за тое, што мелі. Больш таго, пасля аграрнага крызісу 80-х гадоў яны ўсяляк імкнуліся палепшыць і павялічыць свае ўладанні за кошт сялян. Судзіліся з імі за спрэчныя землі, стараліся пазбавіць вёску сервітутаў. Нездарма на Беларусі і ў Літве быў самы нізкі ў параўнанні з іншымі раёнамі еўрапейскай Расіі працэнт прыватнаўласніцкіх зямель, якія ў 1863 — 1902 гадах паступілі на продаж. Купля зямельных багаццяў адбывалася толькі пасля спецыяльнага дазволу ўлад. Так ужо склалася, што беларускія сяляне і дробная шляхта каталіцкай веры не маглі прыдбаць больш за 60 дзесяцін на сям'ю з улікам надзелаў, якія ўжо меліся на руках. У такіх варунках попыт на зямлю апярэджваў прапанаванне, асабліва з 80-х гадоў, калі нястача сялян рэзка абвастрылася. А таму цэны на зямлю хутка сягалі ўгору. Жыццё беларускіх сялян, якое будавалася па расійскаму ўзору, мала садзейнічала гаспадарлівасці. Асабліва гэтаму шкодзіла абшчыннае карыстанне зямлёй, якое пераважала на ўсходзе Беларусі. На думку аднаго з магілёўскіх паноў, "...гэта другое прыгоннае права, дзе кожная асоба больш светлая, больш культурная і працавітая ў кабале ў грамады". Людзей не пакідала надзея ўсталяваць і зберагчы сацыяльную роўнасць з дапамогай дзяржавы, яе падачак. Царскія ілюзіі, урадавая палітыка сацыяльнай дэмагогіі ідэйна разбэшчвалі сялянства, часам рабілі яго абыякавым да свайго лёсу.

Але пераважала імкненне да свабоды прадпрымальніцтва. Гэтаму магла паслужыць хутарызацыя ці пераход да фермерскага гаспадарання, якое найбольш поўна выяўляе асабістыя здольнасці чалавека. Нават на Магілёўшчыне з яе абшчыннымі традыцыямі, па сведчанню тамашняга губернатара, вяскоўцы цярпліва збіралі грошы, каб вырвацца ў Сібір ці на Каўказ, на прастор для свабоднага землеробства. Гэты ж губернатар у сваёй справаздачы цару за 1901 год прыходзіў да высновы, што "абшчыннае ўладанне не ў правілах беларусаў". І сапраўды, некаторыя воласці ўсходняй Беларусі прымалі прыгаворы аб пераходзе да падворнага землекарыстання па прыкладу Мінскай, Гродзенскай і Віленскай губерняў.

...У тыя часы ведалі цану зямлі і вельмі яе шанавалі. Сельскай гаспадаркай займалася 94 працэнты беларускага насельніцтва (1897). Беларусы не надта цягнуліся да гандлёва-прамысловай дзейнасці, дзе панавалі яўрэі. Сярод вяскоўцаў, і асабліва былой шляхты, існавала меркаванне аб гандлі як справе нікчэмнай. Іх адданасць зямлі здзіўляе і выклікае зайздрасць, калі пачынаеш думаць аб становішчы ў сучаснай вёсцы. І нават цяжка ўявіць, што ўтрымлівала нашых продкаў мацней — дзікунства, розум, сэрца ці ўсведамленне свайго прызначэння быць аратымі. А хутчэй за ўсё — нацыянальныя традыцыі, характар. Больш за ўсё беларускі народ цаніў надзейнасць і не знаходзіў нічога больш надзейнага за зямлю. Хто яе меў, той меў і багацце, і волю, і павагу, і ўплыў. А таму ўсё, што зберагалася сялянамі, ішло на прыкупку новых зямельных нарэзкаў.

Нацыя сцвярджала сябе праз земляробства. Таму яна, як ніякая іншая, мела патрэбу ў зямельнай рэформе. Перамен чакалі ва ўсіх кутках Расіі. Але ўрад марудзіў — і давёў краіну да вялікага крызісу 1905 — 1907 гадоў.

Гісторыя, на жаль, часам паўтараецца...

**Захар ШЫБЕКА.**




**49**

Зразумела, што гэтыя законы кіруюць чалавекам з самага малку. Запраўды. Скажам, радзіўся чалавекам вераб'інай пароды. Калі ён вырасьце, ён будзе ня больш, як верабей, як бы ён ні імкнуўся, якія б універсытэты ні канчаў (і дурні канчаюць універсытэты), але ён ня можа стаць сакалом. Так рашыла прырода, такі закон жыцьця. Аднак мы прарочым дзяцёнку вялікую будучыню, мы кажам: ён будзе інжынерам, прафэсарам.

Хоць між тым лёс чалавека ўжо вырашаны: ён будзе ўсё жыцьцё канцылярскім чыноўнікам. Здаецца, так проста і ясна: лёс чалавека істнуе ракой яго жыцьця... Адны будуць вераб'ямі, другія сакаламі... А ўсё ж: што вельмі проста, то вельмі мудра. Людзі ня хочуць прызнаць, што лёс істнуе і кіруе жыцьцём. Яны кажуць: мы вольныя птушкі, давайце будзем лётаць пад небам, над няведамымі краямі. Можа быць гэта й хвароба, можа быць трэба сьпяваць гэтаму бязумству песьню, але ўсё ж гэта бязумства. Закон жыцьця строгі й бязжаласны, як судзьдзя. Цяпер трэба даведацца, дзе ў чалавека знаходзяцца крыльлі? Крыльлі гэтыя знаходзяцца ў мозгу. Так, у мозгу... Мудрыя сосны, слухайце: шуміце сваімі пышнымі галовамі... У мозгу пачынаюцца ўсе палёты, ад мозгу залежыць якасьць народа, але ад чаго залежыць якасьць мозгу?

Я бачыў калісьці фатаграфію мозгу пісьменьніка ангельскага Шэкспіра і простага ангельскага работніка. Мозг быў аднолькавых размераў, але ў Шэкспіра ізьвіліны йшлі правядловымі й выразнымі лініямі, у той час як у работніка яны былі невыразныя й зусім не правядловыя. Дык ад чаго залежыць праца мозгу — ад ізьвілін, ці ад іх

**50**

колькасьці, ці можа ад якіх-небудзь іншых прычын?..

Кажуць, што ў геніяльнага нямецкага матэматыка Гаўса мозг важыў больш за ўсіх, вядомых дагэтуль мазгоў — каля 3-х кілаграмаў; маскоўскага пісьменьніка Тургенева — каля 2-х з паловай, а італьянца Дантэ — вядомага на ўвесь сьвет сваёй "Боскай камэдыяй" — толькі 1,5 кілаграма. Зразумела, што такі чалавек, галава якога ледзь трымаецца пад цяжарам 3-х кілаграмаў, павінен быць геніяльным. Знача, з другога боку, праца мозгу залежыць ад яго вагі.

Кажуць яшчэ, праца мозгу залежыць ад маленькай жоўтай матэрыі, называемай мазжачком. Хто ведае? Самі вучоныя, здаецца, на гэтыя пытаньні ня могуць нічога адказаць пэўнага. І дурань, і мудры нічога ня ведае. Яшчэ Сакрат сказаў: "Я ведаю толькі тое, што я нічога ня ведаю". Але як бы там ні было, палёты людзкія і парода людзей залежаць ад мозгу...

І можа быць, мілыя сосны, праз 300 гадоў, калі ўжо і вас не будзе, у лес прыдзе чалавек і раскажа, што ён прыдумаў такія праменьні, як зараз рэнтгенаўскія, якія праходзяць праз чарапны кошак і адразу паказываюць, што гэты чалавек будзе вераб'ём, гэты — каршуном ці сакалом... Можа быць тады вераб'ёў будуць нішчыць, як непатрэбных? Тады запануе толькі здаровая, разумная людзкасьць і жыцьцё стане прыгожым. Аб гэтым нават думае зьявіўшаяся нядаўна навука. Але пакуль гэтага няма... Вераб'і жывуць і спакойна сабе чырыкаюць...

Так вось якой пароды быў чалавек, радзіўшыся ў скляпе... Ён быў самы звычайны, шэранькі, маленькі верабей. Ён хацеў, каб ад яго аднялі яго

**51**

жыцьцё: ён не хацеў быць больш вераб'ём. Мудрыя сосны! Вы жывяце 100 і больш гадоў, вам дадзена магчымасьць шмат ведаць, што робіцца ў вашых гушчарах; вам дадзена магчымасьць паднімацца высока ў вечнае неба... Скажыце мне: ці прыходзілі да вас такія, як я, ці прыносілі яны сваю душу вам, як я, ці прасілі яны разьвяваць іх тугу, як я?..

Маей тугі вам не разьвеяць, як не зламаць магутнаму ветру вашых ствалоў. Так, мудрыя сосны! Сяньня ў ночы, у 12 гадзін, да мяне прыдзе прыгожая паненка ў белым, імя якой — сьмерць. Яна пацалуе мяне і ахопіць мяне ў свае абоймы. Я пачую яе моцнае дыханьне і яе сьмех. І я скажу ей у яе абоймах: "Я — маленькі, шэранькі верабей. Я не хачу чакаць таго часу, калі ты, Сьмерць, паклічаш мяне. Я сам іду да цябе, я ляту ў твае абоймы. Я зразумеў, што без цябе жыць ня можна. Як жыць курыцы з яе мозгам, калі яна ведае, што істнуе каршун, хітрэйшы за яе. Усякая курыца павінна была сама ляцець у твае абоймы, магутная Сьмерць... Яна гэтага ня робе. Тым горш д[illegible]е. Я прышоў да цябе. Я маленькі, шэранькі верабей. З маленькіх, шэранькіх вераб'ёў я яшчэ належу да той пароды, якая заўсёды пападаецца ў няшчасныя сеткі, якая апутана няшчаснымі выпадкамі й распутаць іх мяшае ім іх маленькі мозг. Дык я адзін іду да цябе, мая збавіцельніца Сьмерць. Я ня клічу за сабой маіх братоў — людзей, маленькіх людзей вераб'інай пароды. Няхай яны жывуць... Няхай дышуць паветрам... Няхай хваляць сонца і прыклікаюць жыцьцё... Шчасьліва заставацца... І скажа мне прыгожая Сьмерць: "Мілы мой, любы. Бачу, ты шчыра пакахаў мяне. Вазьмі моцную вяроўку, абвій каля свае шыі і падыміся

**52**

разам са мной на моцны сук. Я абыйму цябе моцна за шыю, і мы так засьнём, і будзем калыхацца на суку. Сосны будуць сьпяваць нам свае гімны. Сонца будзе асьвячаць золатам сваіх праменьняў. А заўтра зранку, ледзь зачырыкаюць птушкі, прыляціць у лес пастушка з каровамі, пабачыць, што ты качаесься на суку, ахне: спужаецца, паляціць дахаты клікаць людзей... Здымуць нас з табой з качэляў, але мы будзем з табой вечна, вечна разам: ты будзеш спаць у маіх абыймах, мой мілы, безкаштоўны Пётра Тугоўскі". Так, мілыя, мудрыя сосны, адкажа мне паненка, якую я выбраў сам і якая прыйдзе сяньня ў дванаццаць гадзін ночы... Слухайце: я кажу яшчэ вам аб тых, якія будуць плакаць аб маленькім чалавеку вераб'інай пароды... Далёка яны адсюль..."

— Стой! Хто тут? — крыкнуў чыйсьці вясёлы мужскі голас, настолькі моцна, што ён аж уздрыгнуў і выпусьціў з рук аловак...

— А, вось яна, прапаўшая грамата. Вось калі знайшоў, — крычаў вясёлы "айцец" Кірыла... Тугоўскі спужана і незадаволена глядзеў на няпрошанага гасьця.

V

— Пішаш? — пытаў "айцец" Кірыла, прысаджываючыся на вялікую лаву ў альтане і паглядаючы на Тугоўскага сваімі насьмешлівымі вачыма: — Ён усё піша, піша, і нагой усё калыша...

Тугоўскі маўчаў.

— Што ж ты пішаш такога? Дысэртацыю якуюнебудзь? Можна паглядзець...

— Не, — суха адказаў Тугоўскі. — Гэта ліст дахаты. — І схаваў паперу ў кішэню.

**53**

— Тэк-с... Але ты спальню выбраў знамянітую, — "айцец" Кірыла сплюнуў. — Відаць, тут нямала павукоў начуе... Вунь якія кросны насучылі яны...

— Так, лепшай спальні ня знойдзеш у Празе, — зазначыў Тугоўскі.

— А ты пераяжджаць не зьбіраесься? — І не даўшы адказаць Тугоўскаму, прадоўжыў: — Ведаеш, цябе шукаюць у Празе. Не паліцыя, не, а "Беларуская Грамада ў Празе". Ніхто ня мог мне сказаць, дзе ты. Я толькі выпадкова цябе знайшоў...

— Ня трэба было знаходзіць, — сярдзіта сказаў Тугоўскі. — Я яшчэ нічога ні ў каго ня ўкраў, каб мяне шукалі...

— Вось як... Табе дабра жадаюць, а ты надуваесься, як індык... Так ты, брат, у жыцьці загінеш, і ніхто не захоча цябе падтрымліваць.

— Я не прашу дабра ў людзей, — прадоўжываў Тугоўскі. — Я ні ў каго нічога не прашу. Калі я й загіну ў жыцьці, дык загіну... Ад гэтага нікому ня будзе ні студзёна, ні горача. Я прашу пакінуць мяне ў супакоі... Мне ўжо абрыдла людзкая ўвага... Я ведаю цану людзкому спачуваньню.

— Ды кінь ты, — сплюнуў "айцец" Кірыла, насунуўшы капялюш на патыліцу. — Не накрывай на сябе плашча Гамлета: табе гэта зусім не падходзе... Такія Гамлеты, ведаеш, страляюцца... А страляцца, — ён сплюнуў, — глупства. Тым больш, што табе жыцьцё ўсьміхаецца... Другі на тваім месцы пацяшаўся бы. Ведаеш ты, што табе прызначана стыпэндыя, і не частковая нават, а поўная, з выдачай ботаў, касьцюма і паліто. Ведаеш ты гэта?..

— Стыпэндыя? — зарухаўся Тугоўскі. — Кажаце, стыпэндыя?!. Вельмі дзякую!.. Скажы ім, калі

**54**

ласка, што яна мне не патрэбна.

— Што ты, звар'яцеў? — ускочыў Кірыла. — Табе не патрэбна стыпэндыя? Нашто ты тады ехаў у Прагу?

Тугоўскі замаўчаў...

— Я думаю, ты ня герцаг які-небудзь, якому не патрэбна стыпэндыя, не Загорскі які-небудзь, якому можа прысылаць матка з хаты. Ты з такой самай працоўнай грамады, як і я.

— Слухай, "айцец" Кірыла, — прамовіў Тугоўскі з бліснуўшымі сьлязінкамі на вачох. — Не старайся мяне пераконываць. Я ўсё ўжо ўзважыў, усё падлічыў. Падвёў усе балянсы ў той момант, калі быў адзін па начах у сваей альтане. Ведаеш, ёсьць моманты больш важныя за хлеб, за ежу, за стыпэндыю. Ёсьць моманты, калі ня хочацца ні піць, ні есьць. Ты, напэўна, чуў, што ў турме часам арыштанты аб'яўляюць галадоўку? Так вось, брат: знача, ёсьць мукі і больш цяжкія, чым голад, ёсьць так званыя й маральныя мукі... Вось гэтыя мукі прымушаюць мяне адмовіцца ад стыпэндыі... Ты робіш зноў зьдзіўлены твар... Ну добра... Дапусьцім, што я згаджуся атрымаць стыпэндыю, стану студэнтам. Ну й што пасьля гэтага? Жыць, калі ты чуеш поўны ўпадак сіл, калі ў цябе баліць сэрца, мучаецца сьвядомасьць... Слухай, "айцец" Кірыла: жыць без таленту, без аднаго хоць якога-небудзь таленту, жыць разачарованаму ў самім сабе, жыць з пэўнасьцяй, што табе ўсё роўна нічога ня ўдасца, згадзіся сам немагчыма.

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 23 — 28.**

**55**

— Цьфу! — плюнуў "айцец" Кірыла. — Адкуль ты ведаеш, што табе нічога не ўдасца?.. Бяры, што ты можаш зрабіць, бяры па сваіх сілах — і табе ўсё ўдасца... Каб табе нічога не ўдалося б — так-такі зусім, зусім нічога — гэта немагчыма. Ні адзін жывы чалавек гэтага ня скажа... Калі ты так думаеш, тады ўжо ты, запраўды, нежывы чалавек, тады толькі рухаючыйся труп. Так я ў цябе вельмі памыліўся...

— Так, "айцец" Кірыла, я стаў ужо трупам. Я — чалавек, катораму толькі што мінула 24 гады, стаў ужо трупам!.. Трагэдыя, годная пяра Шэкспіра, праўда? А калі гэта так, дык на што трупу яшчэ бадзяцца па сьвеце?.. На што яму стыпэндыя?.. Няхай карыстаюць з яе тыя, хто яшчэ жывы, хто думае ўва імя чагосьці разьбіваць сабе галаву... Няхай творуць камэдыю комікі, умеючыя сьмяяцца...

— Так, брат: нэўрастэнія ў цябе, вострая нэўрастэнія. Можаш ісьці да любога доктара: ён скажа табе тое самае. Ты думаеш, што кажаш страшэнна мудрыя рэчы. Ніколькі, выбачай. Твая, з дазволу казаць, філёзофія ня мае ў сабе нічога цікавага... Хоць бы што-небудзь годнае ўвагі, над чым трэба было б прызадумацца... Пустата... Пагляд на жыцьцё нэўрастэніка...

— Паважаны "айцец" Кірыла! Ты толькі падцьвярджаеш маю думку аб самім сабе. Чым далей, тым больш пераконываеш ты мяне, што мне жыць ня варта...

— Калі так, дык памірай. Я ў цябе памыліўся. Я думаў, што ты з працоўных, з сялян ці з работнікаў, што ты моцна, па-дзедаўскі, гатоў чапляцца за жыцьцё, нягледзячы ні на якія мукі й болі. Я думаў, што ты прыдзеш у нашу грамаду і

**56**

станеш у шэраг тых, хто гатоў гінуць за работнікаў, як кажуць, за вялікую справу ўсялюдскага каханьня... А ты — інтэлігент, хворы інтэлігентнымі хваробамі... Такіх інтэлігентаў я цярпець не магу. Тады жадаю табе шчаслівай сьмерці, як і ўсякаму інтэлігенту... — Ён падняўся, каб ісьці.

— Пачакай, "айцец" Кірыла... Пачакай, — прамовіў Тугоўскі, ужо не жадаўшы, каб ён атхадзіў. У яго ўжо патроху праходзілі настроі, навеяныя пісаным лістом. Ён быў зварушаны словамі Кірыла аб інтэлігентах. — Пагутарым па-сяброўску. — Кірыла зноў сеў. — Ведаеш, ты нагадываеш таго чалавека, каторы зьняў с пятлі самагубцу і зараз стараецца вярнуць яго да жыцьця. Але гэтаму самагубцу ня так лёгка прымірыцца з жыцьцём: павінен прайсьці пэўны час. Так і для мяне павінен прайсьці пэўны час, пакуль я звольнюся ад уплыву маіх ідэй. Справа ў тым, што я радзіўся пад Сатурнам... — Ён расказаў Кірылу тое, што вычытаў з кніжак, дадзеных астральным чалавекам.

— Кінь ты, — засьмяяўся "айцец" Кірыла, — ня вер ніякім уплывам Сатурна!.. "Чалавек — гэта гучыць горда", разумееш?.. Кожны — сам каваль свайго шчасьця і зусім начыхаць на Сатурн... Гэта тэорыя знайшла ў тваім "я" адпаведны грунт, таму што ты хворы інтэлігент.

Але ўсё ж, думаю, пакалыпаць цябе пальцам — дык у сярэдзіне тваей акажацца здаровы селянін. Не... Ты не павінен тут заставацца! Чым хутчэй пераехаць на прыватнае памяшканьне ў Прагу, бо стыпендыя ў цябе ёсьць. І апрача гэтага павінен праврваць адносіны з гэтым астральным чалавекам. Разумееш? А цяпер апраніся лепш і пойдзем разам да мяне. Я ад цябе не застануся...

# IV. СТО СУСТРЭЧ ЗА АКІЯНАМ





Студзеньскі нумар газеты "Беларус", што выдаецца ў Нью-Йорку, паведаміў пра выхад з друку кніжкі Міхася Кавыля "Міжагнёўе" ды пра тое, як адзначалася 75-годдзе аўтара (партрэт злева). Самы першы верш паэт надрукаваў у свае 27 год, а роўна праз столькі ж, калі ззаду засталіся сталінскія лагеры, акопы вайны, палон, заходнія краіны, сустрэча з Амерыкай, смелай майстэрскай рукой выведзе: "Каторы год цябе, мой Край забраны, нагамі топчуць п'яныя Іваны?.." На эміграцыі Міхась Кавыль выдаў чатыры зборнікі (відаць, выдадзены ўжо і пяты). У адным — "Цяжкія думы" — ён горка разважае:

За што, Тварэц, я цяжка пакараны?
Малюся часта грэшнік у цішы.
Па волі слуг маскоўскага тырана
За горла песню сам сваю душыў.

Паэт і ягоныя песні (дарэчы, у Канадзе выдадзены плыты з ягонымі песнямі), хоць і квола, але прасочваюцца — не, вяртаюцца на Бацькаўшчыну, пачынаюць друкавацца ў часопісах.

Калі я прыгадваю словы паэта-слуцака: "У час тварэння мастака рукой Багі кіруюць"..., дык прыгадваюццца і другія, хто таксама адарваны і адлучаны ад Радзімы, не адрокся і не забыўся на яе хараство, і дагэтуль чэрпаюць з невычэрпных народных крыніц жыватворныя гукі, колеры, словы і прысвячаюць Радзіме вершы, апавяданні, жывапісныя палотны, графічныя лісты, вышываныя ручнікі і кашулі, і нават... цэлыя храмы. Адзін з тых, хто найбольш самабытна раскрыў сябе і як жывапісец, і як разьбяр, і як архітэктар, і як цясляр — Алег Махнюк (на здымку ён разам з жонкай Людмілай, таксама здольнай мастачкай). І не дадуць схлусіць уласныя вочы і вушы, што гэты дзіва-майстар да таго ж надзвычай ахвярны чалавек. Падчас будаўніцтва царквы Алегу Махнюку прыйшлося (ці пашчасціла) выконваць самыя розныя работы — ад стварэння праекта будынка да выканання купала. Разьбяны іканастас ды мазаічны абраз Святой Ефрасінні Полацкай на франтоне — гэта таксама праца яго таленавітых рук. А яшчэ ён аўтар і выканаўца помніка-кургана "Змагарам за вольную Беларусь". За ахвярную працу па, : высвячэння царквы Алег Махнюк, дыякан беларускага прыходу, быў узведзены ў сан пратадыякана.

А ў хаце-майстэрні на беразе возера, поўнай палотнаў, драўляных скульптур і сам обнай мэблі, захоўваюцца сярод ых і даўно напісаных работ два партрэты — гэта на вяселлі ён намаляваў Людмілу, яна — Алега.

І вось ужо ў "дзедавай" царкве асвячоны ўнук, і ў гонар нашчадка дзедава рука зноў кладзе яркія фарбы на белае палатно.

Беларусь, Беларусь... Колькі яшчэ пакаленняў эміграцыі будуць несці цябе ў сваіх думках і сэрцах і ўглядацца ў краявіды і партрэты на карцінах, колькі яшчэ адно імя тваё будзе натхняць неспакойныя душы і на мастацкае слова, і на шчырую малітву, і на маляўнічы пейзаж. Беларускае творчае асяроддзе за акіянам даволі багатае і разнастайнае, але што ведаем мы пра яго, што чыталі, бачылі, чулі? Двух-трох паэтаў, мастакоў, не болей. Адных толькі літаратараў-слуцакоў там чатыры. А колькі талентаў з Наваградчыны, Дзісненшчыны, Палесся! Амаль штогод у Грамадскім Цэнтры ў Саўт-Рыверы наладжваюцца выставы выяўленчага мастацтва і народных рамёстваў. Заўсёдныя ўдзельнікі — мастакі Галіна Русак, Тамара Стагановіч-Кольба (на здымку ўверсе),



Ірэна Дутко, Алег і Людміла Махнюкі, майстры вышывання Юля Андрусышына, Зора Кіпель... Але ў выставах бяруць удзел і суайчыннікі з Канады, Аўстраліі, Францыі, Польшчы і нават з БССР. Арганізатар гэтых і падобных мерапрыемстваў, выдатная майстрыха Надзея Кудасава сказала: "Не толькі жывапісным вобразам, разцом па дрэве ці мастацкім словам, але і звычайнай ніткай можна раскрыць свой дзівосны стан душы, падзяліцца заўсёдным сумам па далёкім родным куточку".

Студзеньскі нумар "Беларуса" паведаміў і горкую навіну: памёр Пётра Мірановіч. Нью-йоркскім беларусам не трэба тлумачыць пра гэтую асобу, бо ўва многіх дамах ці не ад пяцідзесятых яшчэ гадоў ашчадна захоўваюцца карціны (пераважна пейзажы), створаныя рукой мастака (па-амерыканску — артыста) Мірановіча. Жывапісец часта "глядзеў" на Беларусь настальгічнай памяццю, таму вялікія па памерах і малыя, у шыкоўных і танных багетах палотны, нясуць у замежнае жытло святло і цеплыню зямлі продкаў. І будуць саграваць гэтым святлом заўсёды.

Анатоль КЛЯШЧУК.

# ПЕРАБУДОВА: ГІСТАРЫЧНЫЯ ЛЁСЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

умовай самога ўзнікнення і далейшага ўмацавання таталітарнага рэжыму было ажыццяўленне сацыялістычных пераўтварэнняў у краіне.

Традыцыі манархізму садзейнічалі захаванню культу асобы Сталіна і яго пераемнікаў, а рэлігійная афарбаванасць афіцыйнай ідэалогіі ў царскай Расіі садзейнічала трансфармацыі марксісцкай ідэалогіі ў своеасаблівую новую афіцыйную "рэлігію".

Нарэшце, у масавай свядомасці трывала зацвердзіўся стэрэатып, што існуючая эканамічная і палітычная сістэма паспяхова выконвала сваю гістарычную задачу: адстаяла заваёвы Кастрычніцкай рэвалюцыі ў вайне, пераўтварыла вялікую краіну, вывеўшы яе ў пачатку 1960-х гадоў на ўзровень звышдзяржавы і да т. п.

Узнікненне шэрагу сацыялістычных дзяржаў у Еўропе, Азіі, Афрыцы і Лацінскай Амерыцы, сацыялістычная арыентацыя ў ідэалогіі, эканоміцы і палітычнай практыцы многіх кіруючых рэжымаў у посткаланіяльных дзяржавах Азіі і Афрыкі ўмацоўвалі ў масавай свядомасці ўяўленне аб "рэальным сацыялізме" як адзіна правільным шляху грамадскага развіцця.

Зразумела, важную ролю адыгрывала сістэма падаўлення асобы — ад масавых рэпрэсій да ідэалагічнага канфармізму. Аднак страх не быў рашаючым фактарам у падтрыманні сістэмы. Ва ўмовах сакрушальных ваенных паражэнняў 1941 — 1942 гадоў савецкі рэжым захаваў падтрымку насельніцтва.

І вось за першыя 50 гадоў існавання сацыялістычнага ладу, нягледзячы на каласальныя матэрыяльныя і людскія страты ў ходзе грамадзянскай і Айчыннай войнаў, былая адсталая царская Расія ператварылася ў ваенную звышдзяржаву з развітым прамысловым і навуковым патэнцыялам, якая забяспечыла задавальненне асноўных патрэб насельніцтва ва ўмовах падтрымання ўсеагульнай занятасці.

Аднак за гэта савецкі народ заплаціў высокую цану: падаўленне індывідуальных правоў асобы і параліч прадпрымальніцкай ініцыятывы вытворцаў тавараў і паслуг.

Само будаўніцтва сацыялізму ў СССР і іншых краінах заключала ў сабе глыбокую супярэчнасць, таму што фарміраванне і наступнае развіццё таталітарнай сістэмы супярэчыла асноўным ідэям сацыялізму як грамадства больш высокага ўзроўню дэмакратыі ў параўнанні з буржуазным парламентарызмам.

Гэта найвялікшая драма XX стагоддзя непазбежна прывяла да крызісу сацыялістычнай грамадска-эканамічнай сістэмы.

Рыгор КАТОЎСКІ,
кандыдат гістарычных навук.

*НАТАТКІ КРАЯЗНАЎЦЫ*

# МАЛАДЗЕЧНА–МІНСК–УРАЛ, А ДАЛЕЙ–УСЮДЫ

### ШТО ДЗЕНЬ НАСТУПНЫ НАМ ПАКАЖА

З'езд краязнаўцаў узбуджаўся галасамі тэмпераментных прамоўцаў. Здавецца, па танальнасці і сіле голасу ніхто нікому не хацеў саступаць. Праўда, узыходзілі на трыбуну людзі талковыя, дарадцы, якія падказвалі разумныя шляхі развіцця краязнаўства. Па логіцы разважанняў можна вызначыць, хто ёсць хто. Якраз у сапраўдных краязнаўцаў можа найменей было той запальчывасці, якая шкодзіць слухаць адзін другога, болей шумелі тыя, хто працуе "пад краязнаўца". Меркавалася, што ўжо вырашылася пытанне аб назве гэтага добраахвотнага згуртавання Расіі. Дык не, зноў не так. Падкінута некім думка: разабрацца ўсім па рэгіёнах, зрабіць агляд уласных сіл, вырашыць з назвай і прадумаць кандыдатуры ў кіруючыя органы. Зноў вялікі перапынак, там абед, ды зноў на сход, толькі ўжо рэгіянальны.

Пакуль суд ды справа, выбягаю на трамвайны прыпынак і нясуся ў архіў, куды паспеў пазваніць і прыспешыць падрыхтоўку новых матэрыялаў. Бягу ўжо знаёмай сцежкай да архіва. Глядзь, зноў той самы дзядзька, у якога я наводзіў даведкі пра архіў. У руках у яго пакунак, накшталт бандэролі.

— Добры дзень, мне сказалі, што вы тут будзеце, і я вас чакаю. Я стары чалавек, век зжываю, але ў маёй сям'і захоўваецца гэта кніга. Яе аўтар мой далёкі сваяк па мацярынскай лініі.

Дзякую за кнігу, распакоўваю і чытаю: "Из воспоминаний прошлого". С-Петербург, 1908 год. Книга вторая". Мелькам гартаю.

— Адкуль яна ў вас? — пытаюся ў ахвяравальніка.

— Гэта кніга захоўвалася ў зауральскім горадзе Камышлове (сёння Свярдлоўская вобласць. — Г. К.) і расказвае пра далёкае мінулае вашага краю.

Яшчэ раз дзякую і пытаюся, колькі будзе каштаваць такая рэліквія. Мой знаёмы замахаў рукамі, маўляў, нічога не трэба, яна больш будзе карыснай на Беларусі, чым тут, на Урале, тым больш, што яму ўжо і няма каму яе перадаць. Абяцаў што-небудзь яшчэ паглядзець у сваіх кнігах, і калі што знойдзецца, вартае Беларусі, перадаць мне...

### ХТО ТЫ, ГРЫНЕВІЧ?

Толькі я наважыўся перапыніць свой нядоўгі архіўны час, каб паабедаць ды паспашацца да калег, далей паслухаць, што ж там робіцца, аб чым спрачаюцца, як да мяне падышла супрацоўніца чытальнай залы і прапанавала паглядзець дакументы на польскай мове, якія дагэтуль тут ніхто не расчытаў. Ат, была не была, згаджаюся. Пакуль я афармляю заказ, жоўтая велізарная папка ўжо лягла на стол. Бачу: у вачах супрацоўніцы гарыць іскрынка задавальнення, што мне хоць чым-небудзь спрыяе ў пошуках. Дзякую і прымаюся за работу.

На вокладцы размашыстым почыркам выведзена прозвішча: Грыневіч. Адзін з галоўных і вельмі размаляваных дакументаў — герб "Прыяцель", да якога і належаў Грыневіч. Папера, на якой яшчэ сёння зіхацяць гэтая сімволіка шляхціца, адносіцца да XIII стагоддзя. Пра тое засведчылі вадзяныя знакі. Адкуль жа на Урал трапілі такія прыгожыя манускрыпты? Які лёс іх уладальніка?

Папка хоць і вялікафарматная, але тоненькая. Усяго толькі з дзесятак аркушаў. Рашаю цяпер жа і прачытаць, вельмі ж інтрыгуючы пачатак.

Пачынальнік роду Грыневічаў чэснік Лідскі — Сцяпан Грыневіч (1700 год) паходзіў з мясцовасці Рутка, якая, напэўна, знаходзіцца недзе ў тым краі. Гэты род раздвоіўся: адны прадаўжалі жыць на Лідчыне, а другая сям'я перабралася на Валынь. Герб, які я трымаю ў руках, у 1738 годзе выдалі Міраславу Грыневічу. І выдалі яму не проста так, а за тое, што хабра змагаўся на вайне і вынес з поля бою загінуўшага князя, не даўшы апаганіць яго праціўніку. Уручаў Міраславу гэты дакумент сам польскі кароль Баляслаў Кудравы.

Аднак той подзвіг не стаў для Міраслава Грыневіча апошнім. Гарачы патрыёт, рыцар мяча, зноў стаў ратнікам, і шабля малайца хвацка хадз[illegible] па галовах праціўніка. Аказаў[illegible]ся аднойчы ў акружэнні варожых сіл, герой прабіраўся да сваіх, непрыяцельскія рады смяротэльна сціскаліся, наспявала немінучая схватка. Уступілі ў рукапашную яго паплечнікі. Надыш[illegible]арод і Міраслава. Храбра ё[illegible]ваяваў, але сілы былі няроўныя...

Ужо пазней заглянуў у гербоўнік к. Нясецкага, каб пераканацца, ці быў у Грыневічаў такі герб? Усё правільна, яны мелі такі сімвал сваёй далучанасці да шляхты. Тут пярэчанняў няма ніякіх.

Адно мяне турбавала: якім чынам гэты дакумент аказаўся ў Чэлябінску.

Усё ж супрацоўніца архіва памылілася, калі гаварыла мне, што гэтыя матэрыялы ніхто з даследчыкаў не трымаў у руках. Гартаю старонку за старонкай і ў канцы справы знаходжу рускі тэкст каментарыя і подпіс — старшы бібліятэкар Румянцаўскага музея А. Вастокаў, 1838 год. Значыць і да мяне цікавіліся дакументам, першы след пакінула рука вядомага расійскага славіста Аляксандра Хрыстафаравіча Вастокава (1781—1864), які на самай справе працаваў бібліятэкарам знакамітага музея першай паловы XIX стагоддзя. У Пецярбург герб Грыневіча трапіў з месца першага камплектавання музея — з Гомеля. А ў горад над Сожам, напэўна, даставіла адна з археалагічных экспедыцый, якія арганізоўваў мецэнат М. Румянцаў (1754—1826), апошні вёў падрыхтоўку "Збору дзяржаўных грамат і дагавораў" (1813—1828). Хоць не ўсё трапіла ў задуманы выдацкім чатырохтомнік, але ўся калекцыя з Гомеля па загаду Румянцава трапіла ў Пецярбург, а там ёю займаліся М. Бантыш-Каменскі, А. Маліноўскі, П. Кэпен, К. Калайдовіч, П. Строеў, І. Грыгаровіч і ўжо названы А. Вастокаў. Апошні і напісаў памянёны герб у 1838 годзе. Заўважым, што акадэмік Вастокаў па даследаванню румянцаўскіх збораў падрыхтаваў працу "Апісанне рускіх і славянскіх рукапісаў Румянцаўскага музеума" (1842), дзе даў палеаграфічную і лінгвістычную характарыстыку 473 рукапісаў.

Але прычым тут Чэлябінск? Зноў ныраю ў бездань пасямейных спісаў жыхароў горада другой паловы XIX стагоддзя. Шукаю прозвішча Грыневіч. Ёсць. Вось ён, І. М. Грыневіч, дваранін, прасіў чэлябінскую думу дазволіць яму прадаць гарадскія дваровыя месцы, якія значыліся пад нумарамі 1203 і 1204. Спрабую ўявіць повязь паміж героем, загінуўшым на беларускай зямлі, і гэтым дваранінам. Вядома ж, дапусціць можна, што ён далёкі сваяк і аднаўляўся ў дваранскім званні, а значыць, спатрэбілася такое пацвярджэнне. Пры знойдзеным гербе няма ніякіх папер, якія б засведчылі пра дачыненне да іх І. Грыневіча. Усё гэта толькі допускі, і каб даказаць іх праўдзівасць, патрэбны новыя пошукі.

### УРАЛЬЦЫ СПРАЦАЧУЮЦЦА

Прыехаў у Палац прафсаюзаў са спазненнем. Секцыі працавалі. У арганізацыйным камітэце з'езда жанчына растлумачыла, што ўсе ўжо разабраліся па рэгіёнах. Ну а мне, госцю, можна выбіраць любы пакой. Я доўга не думаў і накіраваўся да ўральцаў. Тут даўнія традыцыі краязнаўства, ды і зараз яно не замерла. У памяці сядзела цікавая кніга У. Бірукова "Запіскі ўральскага краязнаўцы". Хоць ён ужо памёр, але і цяпер ушаноўваецца як самы вопытны і самы глыбокі знаўца Урала.

Сёння ж сярод ўральцаў "верхаводзіў" мой знаёмы А. Маісееў, хоць вёў пасяджэнне кіраўнікоў першай дэлегацыі. Выступаў навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея горада Златауста Ю. Агурцоў, яшчэ малады чалавек, але, здаецца, ужо добра такі "заразіўся" гэтай справай. Ён расказаў, як у яго горадзе, пад уплывам публікацый З. Пазняка пра Курапаты, сталі шукаць па Урале крывавыя сляды сталінскіх рэпрэсій. Гаварылі пра гэта шмат, але дзе тыя магілы, ніхто толкам не ведаў. З дапамогай старажылаў акрэслілі месцы расстрэлу. Сталі весці раскопкі і натхнуліся на цэлы могільнік ахвяр сталінска-энкэвэдэўскага тэрору. Зацікавіліся. Нехта пусціў чуткі, што гэта вынікі здзекаў калчакаўцаў, а таму дакументаў на знішчаных людзей не захавалася. Пры бліжэйшым знаёмстве са слядамі здзекаў пазнейшага часу эксперты выявілі, што гэта масавая магіла людзей, якіх на Урал вывезлі савецкія органы ўлады ў 1939—1940 гадах, пераважна з Заходняй Беларусі, Заходняй Украіны і Прыбалтыкі. Раскопкі яшчэ не завершаны, і ступень сапраўднага злачынства яшчэ поўнасцю не акрэслена.

Усе выступаўшыя гаварылі пра свае набалелыя праблемы, асабліва пра страту архіваў і кепскую інфармацыю пра іх, а таксама пра цяжкасці з выданнем краязнаўчых кніжак. Пра тое, што краязнаўцы працуюць без усялякай падтрымкі, на "голым" энтузіязме. Я падумаў пра сваіх беларускіх калег і пра тое, што беды нашы ўсюды амаль роўныя: адзін да аднаго.

### СУСТРЭЧА З ЗЕМЛЯКАМІ

Як толькі завяршылася работа секцыі, да мяне падышлі дзве жанчыны. Абедзве яны выступалі, але не здагадваўся я, што яны з Беларусі.

— А я думала, што вы будзеце гаварыць па-беларуску, — адразу ж пашкадавала А. Коган. — Я ўраджэнка горада Гродна і вельмі люблю беларускую мову. Шкадую толькі, што ў мяне на рабоце няма з кім пагаварыць на мілай з дзяцінства мове. Тут я працую дацэнтам бібліятэчнага факультэта Чэлябінскага інстытута культуры. Ведаю, што Беларусь цяпер рыхтуецца да 500-годдзя Ф. Скарыны. На жаль, не маю адпаведных матэрыялаў, але я абавязкова пра гэты юбілей прачытаю студэнтам лекцыю.

— Не перажывайце, я сёння нічога вам не магу даць, а заўтра абавязкова падару матэрыялы, якія мы прывезлі з сабой.

— А ці ведаеце майго калегу ў Мінску Лявончыкава?

— Асабіста не, але з яго публікацыямі знаёмы.

Другая зямлячка Валянціна Тарасава, што родам з-пад Рагачова, запрасіла мяне пабываць у навуковай бібліятэцы і пазнаёміцца з аддзелам краязнаўства, якім кіруе ўжо шмат гадоў.

Яны сказалі, што беларусаў тут нямала. Сышліся на тым, што ёсць магчымасць стварыць беларускае зямляцтва. Па прапанове В. Тарасавай кіраўніком такой арганізацыі можа стаць Г. Здановіч, дацэнт чэлябінскага універсітэта. Чалавек аўтарытэтны і яшчэ малады.

### МІЛЫЯ БЕЛАРУСКІЯ НАЗВЫ

З першага дня я прыглядаўся да штучных гротаў, што ўзніклі на набярэжнай Міяса, поруч з геалагічным музеем. І мяне, як дзіця, заманьвае таямнічасць тых глыбаў. Перасякаю дарогу і адразу трапляю на гарбатую каменную граду. На нейкіх пару гектарах зямлі ў мініяцюры можна ўбачыць адразу ўвесь Урал, а дакладней, што з карысных выкапняў прытаілася ў яго нетрах. З'ява унікальная, вочы разбягаюцца ад тых дзівосаў: што ні камень, то непаўторны малюнак, ад чорнага граніту да белага мармуру, усе адценні зага[illegible]вага падзямелля, дзе века[illegible]і помнікі жыцця нашай планеты. Хаджу па пакручастых алеях камянёў, спыняюся, чытаю "характарыстыкі" карысных выкапняў. Чую голас збоку:

— Сілушка нашага Урала. Сілуш[illegible]

— [illegible]га ў Чэлябінскай вобласці здабываецца?

— Не зусім так. Тут прадстаўлены ўвесь горны хрыбет. А вы не тутэйшы? — удакладнілі.

Я прадставіўся, што знаходжуся ў камандзіроўцы, прыехаў з Беларусі на краязнаўчы з'езд Расіі.

— Ды я маленька краязнавец. Мяне захапіла тапаніміка. Цяпер ужо не столькі ўвагі ёй аддаю, а ў маладыя гады проста трызніў геаграфічнымі назвамі: збіраў карты розных рэгіёнаў Урала, запісваў легенды. Думаў, кніжку напішу, але мне, інжынеру, гэта аказалася не пад сілу. Чаго тут толькі не сустрэнеш: і рускія, і башкірскія, і казахскія назвы. А для вас будзе цікава даведацца, што і беларускія ёсць.

— А калі яны ўзніклі?

— Не магу дакладна сказаць, калі гэта было, як не ведаю, ад каго ішла ініцыятыва. Толькі вось тут якая заканамернасць: Бярэзіна, Полацк, Студзёнка, Орша... Я зрабіў вывад, што гэтыя назвы ўзніклі ў памяць ваенных баталій Айчыннай вайны 1812 года.

Пакуль мы тут гаманілі, аднекуль з тых каменных джунгляў выскачыў шустры унучак, перапыніў нас такім простым дзіцячым заклікам:

— Дзеда, дамоў, піць хачу.

І пацягнуўся за малышом мой новы знаёмы. Павярнуўся ў мой бок, развітаўся і дадаў:

— А карту Чэлябіншчыны купіце, не пашкадуеце.

### МЕМУАРЫ ДАМІНІКАНСКАГА ВЯЗНЯ

Калі ўжо добра такі звечарэла, я прыняўся за знаёмства з падарункам М. Коцікава. Нібы і шмат перачытана літаратуры пра паўстанне 1863—1864 гадоў, але гэтыя мемуары для мяне аказаліся навінкай.

**Генадзь КАХАНОЎСКІ.**

Працяг. Пачатак у № 27-28.

---

# СВАЁ — У ДВУХ СЛОВАХ



Што Слонімшчына багатая славутымі землякамі, не сакрэт. Не сакрэт і тое, што наша Бацькаўшчына славіцца цікавымі і надзвычай дзіўнымі людзьмі.

Вось нядаўна давялося пазнаёміцца з адным з іх. Гэта Міхась Літвінчык. Лёс Літвінчыка падобны да лёсаў яго сучаснікаў. Ён сведка жыцця пры буржуазнай Польшчы, удзельнік вайны. Асколак ад варожага снарада па цяперашні час знаходзіцца ў яго плячы. Пасля вайны ён амаль да пенсіі працаваў шафёрам.

Усё жыццё М. Літвінчык збіраў прыказкі, прымаўкі, афарызмы. А калі адчуў, што памяць стала падводзіць, пачаў іх запісваць. За 35 гадоў у яго сабраўся добры стосік агульных сшыткаў з запісамі. Акрамя таго, Міхась Барысавіч збіраў не толькі чужыя думкі, але запісваў і свае. Здаралася, ён ускокваў уначы і заносіў на паперу сваё — у двух словах. За ўвесь час у яго сабралася звыш трох тысяч сваіх прыказак, прымавак. Афарызмы Літвінчыка друкаваў беластоцкі штотыднёвік "Ніва". Расказвала аб яго захапленні і рэспубліканскае тэлебачанне ў перадачы "Роднае слова".

**В. ВАЛАДАШЧУК.**

Міхась ЛІТВІНЧЫК

## АФАРЫЗМЫ

**Беларусу таму цана малая, які родную мову зневажае.**

**Розуму не трэба многа, каб траціць час дарэмна.**

**Той заўсёды мае рацыю, хто паважае сваю мову і нацыю.**

**Беларуская мова гучыць прыгожа, калі ёю хто добра валодаць можа.**

**Лічы — той адукаваны, хто роднай мове адданы.**

**Каб не было на свеце людзей, не было б ні надзей, ні падзей.**

**Звычай не волас, яго нялёгка вырваць.**

## ЗА 40 ГАДОЎ «НАРОДНАЯ АСВЕТА» ВЫПУСЦІЛА ПАЎМІЛЬЯРДА КНІГ

# НА ЎСЕ ЎЗРОСТЫ

ЧАТЫРЫ дзесяцігоддзі выходзяць у свет кнігі з маркай беларускага выдавецтва "Народная асвета". Створанае 1 красавіка 1951 года, яно ў сваім статуце запісала:

"Асноўнымі задачамі выдавецтва "Народная асвета" з'яўляюцца: выданне падручнікаў, вучэбна-метадычнай літаратуры па прадметах, якія вывучаюцца ў сярэдняй агульнаадукацыйнай школе, літаратуры для дашкольных устаноў і для бацькоў, а таксама мастацкай літаратуры..."

У першым годзе існавання выдавецтва, якое тады называлася Вучэбна-педагагічным, было выпушчана 23 назвы вучэбна-метадычнай літаратуры тыражом 576 000 экземпляраў. Потым штогод выдавалася ад 150 да 250 назваў кніг для школы, а іх агульны тыраж за ўсе гэтыя гады дасягае паўмільярда... Школы атрымалі арыгінальныя падручнікі і метадычныя дапаможнікі, дыдактычныя матэрыялы і навукова - пазнаваўчыя выданні.

Можна без перабольшання сцвярджаць, што чытацкая аўдыторыя выдавецтва — людзі ўсіх узростаў: ад самага маленства да выпускнога класа суправаджае наша кніга маленькага слухача, а потым юнага чытача, звяртаюцца да яе і ўсе тыя, хто звязаны з выхаваннем і навучаннем маладога чалавека, бацькі, выхавальнікі, настаўнікі, метадысты.

Супрацоўнікі выдавецтва заўсёды імкнуцца да таго, каб кніга была змястоўнай і прывабнай, была добрым дарадчыкам кожнаму, хто да яе звернецца. І ўсё ж галоўны клопат "Народнай асветы" — кніга для дзяцей, бо вядома, што станаўленне чалавека-грамадзяніна, станаўленне асобы пачынаецца з дзяцінства. І як часта сустрэча з разумнай кнігай не толькі дазваляе ўжо ў раннім узросце далучыцца да сапраўдных маральных каштоўнасцей, выпрацаваць непрыняцце ўсяго дрэннага, але надоўга, а то і назаўсёды вызначае жыццёвы шлях. І важна, каб кніга была не толькі даступнай і прыгожай, а і стала добрым спадарожнікам і павадыром дзіцяці ў спасцыжэнні свету і сябе ў гэтым няпростым сучасным свеце. І калі настаўнікам адрасаваны шматлікія дапаможнікі, даведнікі, слоўнікі, зборнікі практыкаванняў, дыктантаў, задач, то вучням, апрача падручнікаў, прапануюцца кнігі, закліканыя ў даходлівай, папулярнай форме раскрыць, зрабіць даступнай складаную праблематыку і школьных дысцыплін, і шырокага навакольнага свету.

Пра хараство роднага краю расказваюць кнігі серыі "Гэта ты, мая Беларусь", пра далёкую і блізкую мінуўшчыну — "Школьнікам пра гісторыю Беларусі"; для тых, хто захапляецца родным словам, яго паходжаннем і сувяззю з мовамі іншых народаў, прызначана серыя "Скарбы мовы", а нядаўна, у сувязі з ростам цікавасці да сваёй мовы і з прыняццем закона аб мовах у рэспубліцы, распачата выданне серыі "Беларуская мова: гісторыя і сучаснасць". Таму, хто выпрацоўвае характар і хоча ведаць, як сябе паводзіць у розных жыццёвых сітуацыях, адрасавана серыя "Этыка — школьнікам", падрыхтавацца да ўступлення ў свет дарослых дапамагае серыя "Школьнікам аб сямейным жыцці" (бацькам прызначана серыя "Сямейная педагогіка").

У апошні час значная ўвага надаецца на Беларусі праблемам экалогіі. У 1989 годзе рэдакцыя, якая выпускала кнігі па хіміі і біялогіі, атрымала назву рэдакцыі хіміі, біялогіі і экалогіі. Распрацавана праграма выдання кніг па арганізацыі экалагічнага выхавання і навучання ў сярэдняй школе: "Прамысловасць і экалогія", "Хімія і ахова навакольнага асяроддзя", "Экалагічны слоўнік школьніка", "Экалагічнае выхаванне ў пачатковых класах", "Экалагічная адукацыя ў сярэдніх школах" і інш.

За сорак гадоў склаліся і традыцыі мастацкага афармлення вучэбнай і навукова-папулярнай кнігі ў выдавецтве "Народная асвета", сведчаннем чаго з'яўляюцца заслужаныя ўзнагароды на міжнародных аглядах і конкурсах, на ўсесаюзных, міжрэспубліканскіх і рэспубліканскіх выстаўках. У 1977 годзе наш беларускі "Буквар" атрымаў залаты медаль на Міжнародным кніжным кірмашы ў Лейпцыгу. Многія кнігі "Народнай асветы" — лаўрэаты ўзнагарод ВДНГ СССР і ВДНГ БССР. Толькі за апошняе дзесяцігоддзе работа мастацкай рэдакцыі выдавецтва была адзначана больш як 50 дыпломамі на Усесаюзных і Рэспубліканскіх конкурсах "Мастацтва кнігі".

Ведаюць і шануюць нашу кніжку і па-за межамі рэспублікі — лепшыя выданні "Народнай асветы" перакладзены і выдадзены ў Літве і Латвіі, Эстоніі, Узбекістане і Малдавіі, Чэхаславакіі і Кітаі.

...Ідуць у выдавецтва лісты з блізкіх і далёкіх мясцін: з Віцебска і Магілёва, з Пензы і Казані, Кіева і Данецка, Архангельска і Хабараўска, Краснаярска і Аленягорска — з удзячнасцю за нашу кнігу.

Вось ліст, пад якім 46 подпісаў: "Мы, настаўнікі беларускай мовы і літаратуры Івацэвіцкага раёна, на чарговым пасяджэнні нашага метадычнага аб'яднання правялі творчую сустрэчу з заслужаным настаўнікам БССР В. Туркенічам і абмеркавалі яго кнігу "Творчасці зярняты залатыя". Гэта вельмі карысны метадычны дапаможнік. Аўтар наглядна, доказна, пераканаўча раскрывае свой багаты вопыт па развіццю творчых здольнасцей вучняў. Аўтар знаходзіць надзейны шлях да кожнага вучня, дамагаецца яго зацікаўленасці, шчырасці, працавітасці. Са старонак кнігі мы бачым педагогіку супрацоўніцтва больш пераканаўча, чым у шматлікіх разважаннях вучоных."

"З вялікай радасцю і любоўю чытаю кнігі вашага выдавецтва, — піша з закарпацкага горада Чарнаўцы Канстанцін Раманаў. — Не буду іх пералічваць, іх вельмі многа, але яны заўсёды вылучаюцца і зместам, і афармленнем".

"Вялікі вам дзякуй за "Роднае слова" і "Беларускую мову". Такім прыгожым, беззваротным дзяцінствам, згубленым дзесьці ў смузе дзесяцігоддзяў, павеяла ад іх ", — прызнаецца А. Сцепанюк, кіраўнік Украінскага цэнтра прапаганды кнігі.

"Мы, — звяртаецца да нас з літоўскага горада Снечкуса Л. Дзямчанка,—захапляемся працай вашага выдавецтва і зайздросцім беларускім настаўнікам. Калі нам надараецца быць у Мінску, вязем адтуль горы патрэбных кніг..."

З горада Эмба Акцюбінскай вобласці даслаў ліст Малдабай Яржанаў: "Мне вельмі падабаюцца вучэбныя і вучэбна-метадычныя кнігі, асабліва па матэматыцы. Яны вылучаюцца глыбокім зместам, усебакова прадуманай сістэматызацыяй матэрыялу і вялікім педагагічным майстэрствам аўтараў. Я заказваю ў Мінску больш за дзесятак кніг штогод — як па матэматыцы, так і па педагогіцы, псіхалогіі, этыцы, эстэтыцы — нягледзячы на тое, што некаторыя з іх на беларускай мове".

А чытач з Кіргізіі Алішэр Чамонаў пасля знаёмства з нашымі кнігамі не толькі пачаў сам пісаць нам па-беларуску, але і прыахвочвае да нашай мовы сваіх дзяцей — ён знаходзіць высокае хараство ў мове Я. Коласа, П. Броўкі, В. Быкава.

Заслужаны настаўнік, дацэнт Якуцкага універсітэта Н. Нікалаеў піша: "Паважаныя беларускія сябры! Многія вашы кнігі па чарчэнню траплялі і ў мае рукі (нягледзячы на вельмі вялікія адлегласці), і я заўсёды з радасцю сустракаю вашы выданні, яны вельмі карысныя, новыя, змястоўныя, і мы з задавальненнем карыстаемся імі ў сваёй паўсядзённай рабоце".

А вось ліст з замежнай маркай на канверце, на англійскай мове: "Мяне цікавіць беларуска-рускі слоўнік пад рэдакцыяй С. М. Грабчыкава. Я пачынаю вывучаць беларускую мову, і, хаця ў мяне ёсць граматыка, не хапае слоўнікаў. Шчыра Ваш Эд.Іст".

"Я — філолаг, — заяўляе аб сабе наш калега з Сафіі Венядзікта Грыгорава, — працую ў выдавецтве "Народна просвета", член Саюза перакладчыкаў Балгарыі. Часам у маёй перакладчыцкай практыцы сустракаю беларускія словы і выразы (напрыклад, пры перакладзе кінафільма "Ідзі і глядзі"), а ў нашых кнігарнях я не бачыла беларуска-рускіх слоўнікаў. Я даведалася, што такія слоўнікі выпускаеце і вы. Звяртаюся да вас з найвялікшай просьбай: калі магчыма, вышліце на мой адрас беларуска-рускі слоўнік (любы). Ведаю, што няма спосабу заплаціць за гэта грашыма. Узамен я вышлю іншыя каштоўныя кнігі — як творы рускіх і зарубежных класікаў, так і кнігі па мастацтву ці яшчэ што-небудзь".

Доктар філалогіі, прафесар з Берліна Карл Гутшміт прачытаў дзве нашы кнігі з серыі "Скарбы мовы" і ў рэцэнзіі на іх адзначыў:

"Кніга А. Жураўскага "Мова нашых продкаў" запаўняе прабел у беларускай лінгвістыцы — яна упершыню дае звязны разгляд развіцця літаратурнай мовы ў летапісах, важным жанры старажытнай беларускай літаратуры. Аўтару надзвычай добра ўдалося выявіць адрозненні ў змесце і светапоглядным характары летапісаў, і таму кніжачка А. Жураўскага можа даць важныя звесткі нават і гісторыку літаратуры. Маленькая работа, але яна будзе карысная не толькі непасрэднаму колу адрасатаў, але і ўсім філолагам, якія хацелі б мець уводзіны ў беларускае летапісазнаўства.

А. Каўрус, які шматлікімі публікацыямі высока зарэкамендаваў сябе, сваёй кнігай "Культура слова" праследаваў дзве мэты: абудзіць і прывіць свядомую цікавасць да неабходнасці моўнай культуры і асвятліць чытачу агульныя прынцыпы яе. Шматлікія прыклады вартыя ўвагі з замежных славістаў, і беларусістаў — яны дапамогуць зразумець параўнаўча вялікую варыянтнасць нормаў беларускай літаратурнай мовы".

Прыемна ўсведамляць, што так ацэньваюць у свеце нашу мову, нашу навуку, нашу працу.

**Алесь МАЖЭЙКА,**
**рэдактар выдавецтва "Народная асвета".**





**Гэты ансамбль народнай песні называецца "Крупічанка", назва сведчыць пра тое, што нарадзіўся ён у Крупках на Міншчыне. Існуе калектыў больш за 20 гадоў, і заўсёды на кожным яго канцэрце гучыць беларуская народная песня "Пасаджу каліну ў полі". Яна нібы візітная картка ансамбля.**

**У пачатку ліпеня штогод "Крупічанка" прымае ўдзел у народным традыцыйным свяце "Купалле", дзе чакаюць вясёлых спявачак, якія зачароўваюць слухачоў народнымі песнямі, ведаюць народныя звычаі і абрады.**

**НА ЗДЫМКАХ: удзельніцы ансамбля "Крупічанка".**

**Фота Л. КЛІМАНСКАГА.**

## ДА НАС ПРЫЕХАЎ ЗААЦЫРК...





Ягуара і бегемота, малпу і вярблюда, даўганогага страуса і далікатных папугайчыкаў, горнае казляня і медзведзянят можна ўбачыць у заацырку, што размясціўся ў гэтыя дні на праспекце Ракасоўскага ў Мінску. Жывёльны свет розных шырот прадстаўляе мінчанам Маскоўскі заацырк. Ён прабудзе ў сталіцы рэспублікі каля месяца.

НА ЗДЫМКАХ: ягуар; тут дазваляюць пакарміць вярблюда.

Фота Ю. ПАЎЛАВА.



## *СПОРТ*

ТЭНІС. У Англіі завяршыўся Уімблдонскі турнір, які называюць неафіцыйным чэмпіянатам свету. Упершыню за ўсю гісторыю гэтых спаборніцтваў савецкія тэнісісткі Наталля Зверава з Беларусі і Ларыса Саўчанка з Львова сталі пераможцамі ў парным разрадзе. Да таго ж наша зямлячка заняла другое месца ў змешаным разрадзе.

ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА. З кожным разам усё лепш і лепш выступае на спаборніцтвах кідальнік молата з Гродна Ігар Астапковіч. Вось і ў Францыі ён стаў пераможцам міжнароднага турніру лёгкаатлетаў з вынікам 84 метры 26 сантыметраў.

А ў Котбусе (Германія) мінчанін Андрэй Суднік фінішаваў першым у бегу на 800 метраў.

ВОЛЬНАЯ БАРАЦЬБА. Міжнародны турнір "Залаты пояс Якуціі" сабраў 180 спартсменаў з СССР, Мексікі, Польшчы, Манголіі, Кітая. Пераможцы спаборніцтваў, акрамя спецыяльных прызоў, памятных медалёў, атрымоўвалі і грашовыя прэміі. Сярод "шчаслівчыкаў" аказаўся і магілёўчанін Аляксей Яфрэмаў.

СПАРТЫЎНАЯ ГІМНАСТЫКА. Паспяхова выступіў на летняй Спартакіядзе народаў СССР мінчанін Віталь Шчэрба, які стаў чэмпіёнам у вольных практыкаваннях, заняў другое месца па суме мнагабор'я і заваяваў сярэбраную медаль у практыкаваннях на кольцах.

*У ВАШУ КАЛЕКЦЫЮ*

# ДА РАДАСЦІ ФІЛАТЭЛІСТАЎ

Апошнія выпускі нашай пошты вельмі абрадавалі беларускіх філатэлістаў. Пасля многіх гадоў чакання іх мары збыліся і цяпер пры дапамозе паштовых выпускаў яны могуць расказаць на філатэлістычных выстаўках аб некаторых старонках гісторыі старажытнай Беларусі. У сваіх матэрыялах, апублікаваных у газеце, я ўжо расказваў аб паштовых выпусках, прысвечаных беларускаму першадрукару Ф. Скарыне, полацкаму Сафійскаму сабору XI — XVIII стагоддзяў і сабору Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра XII стагоддзя, і гербам гарадоў Беларусі XVI — XIX стагоддзяў. Цяпер гэтыя выпускі дапоўнены вельмі цікавым канвертам з адлюстраваннем "Пагоні" — старажытнага сімвала Беларусі XIII — XVIII стагоддзяў (такі надпіс дадзены на канверце на беларускай і рускай мовах). Сімвал "Пагоня" — белы коннік на белым кані на чырвоным фоне — паказаны на фоне карты Беларусі. Гэты канверт у філатэлістычнай калекцыі па гісторыі Беларусі будзе займаць дастойнае першае месца.

Другі выдадзены ў сакавіку гэтага года канверт, які паступіў у паштовае абарачэнне ў канцы красавіка, прысвечаны беларускаму гуманісту, рэфарматару, пісьменніку і кнігадрукару В. Цяпінскаму (Амельяновічу). У сваім радавым маёнтку Туміна, што пад Лепелем на Віцебшчыне, ён заснаваў друкарню, у якой каля 1580 года выдаў на беларускай мове "Евангелле". На канверце — партрэт Васіля Цяпінскага, прадаўжальніка гуманістычных ідэй Ф. Скарыны. Гэтым канвертам беларускія філатэлісты ў сваіх калекцыях узновяць яшчэ адну старонку беларускай гісторыі. Не забыты паштавікамі і старонкі больш блізкай да нас гісторыі рэспублікі. У Гродне ўстаноўлены помнік на брацкай магіле воінаў і партызан, якія загінулі пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Помнік гэты адлюстраваны на паштовым канверце. А напярэдадні Дня Перамогі выйшаў у абарачэнне канверт з адлюстраваннем будынка Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны ў Мінску.

Некалькі паштовых канвертаў, што маюць адносіны да Беларусі сюжэтамі сваіх малюнкаў, паклалі філатэлісты ў свае беларускія тэматычныя калекцыі. Гэта канверт з адлюстраваннем помніка рускаму скульптару М. Мікешыну ў Смаленску, аўтару помнікаў Багдану Хмяльніцкаму ў Кіеве, тысячагоддзю Расіі ў Ноўгарадзе і многіх іншых. Ён стварыў серыю малюнкаў, прысвечаных жыццю беларускага краю. — "Паштовая эстафета. Беларусь", "Банкір і шляхціц", "Сцэна нядаўняга рэкруцкага набора. Клімавічы". На адным з канвертаў — помнік Д. Пажарскаму ў Суздалі. Здавалася б — якія адносіны гэты помнік мае да Беларусі? Але філатэлісты скажуць — самыя непасрэдныя. Таму што аўтарам гэтага помніка з'яўляецца беларускі скульптар З. Азгур.

Нядаўна быў выпушчаны канверт з партрэтам яўрэйскага савецкага акцёра, народнага артыста СССР С. Міхоэлса (1890 — 1948). Артыст гэты трагічна загінуў у Мінску.




І завяршае падборку паштовых выпускаў беларускай тэмы канверт з адлюстраваннем цеплахода на падводных крылах для малых рэк, што носіць імя "Палессе".

Леў КОЛАСАЎ.


РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ



**НАШ АДРАС:**
220600, МІНСК-5, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44,
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Заказ 1116.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12